Рэгіянальная газета. Rh.by
тэлетыдзень
НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015
НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017
Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».
12+
9 лістапада 2018 года №45 (1228)

# Ваш камень можа стаць часткай Крэўскага замка

**Падчас рэстаўрацыі камяні, якія былі каля замка, скончыліся. За столькі год разбурэння шмат усяго расцягалі па будоўлях рэгіёна. Частка камянёў ляжыць пад сучаснай тратуарнай пліткай на Цэнтральнай плошчы ў Маладзечне.**



Пра збор камянёў на сваёй старонцы ў Facebook аб'явіў журналіст і грамадскі актывіст, падпісчык «Рэгіянальнай газеты» Глеб Лабадзенка. Рэстаўратары будуць удзячныя кожнаму, хто прывязе ў Крэва хоць некалькі камянёў дыяметрам 30-50 сантыметраў. Можна і меншыя, ад 15 сантыметраў. Нікому адмыслова паведамляць не трэба – проста кладзіце камяні каля галоўнага ўвахода. Паўдзельнічаць у рэстаўрацыі Крэўскага замка – гонар для кожнага беларуса, перакананы Лабадзенка.

Фота 34travel.me.









ISSN 1991–7155

Адскануйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/



## Маладзечанка некалькі месяцаў жыве ў Іране. Ці спраўдзіліся стэрэатыпы пра гэту ўсходнюю краіну і як яна з мужам стварае сваю казку 1000 і адной ночы?

старонкі 20-21

## 2 лістапада ў вагонах электрычкі «Мінск-Маладзечна» былі мяккія сядзенні

МАЛАДЗЕЧНА

Пра гэта паведаміў наш чытач Віталь.

2 лістапада хлопец ехаў у трэцім вагоне электрычкі «Мінск-Маладзечна». У гэтым вагоне – новыя мяккія крэслы замест звычайных.

Па словах чытача, такое новаўвядзенне ў трох вагонах электрычкі.

– Людзі заходзяць у вагон і адразу палохаюцца, на тварах – шок, – кажа хлопец.

На чыгуначным вакзале ў Маладзечне нам растлумачылі, што такое новаўвядзенне – не назаўсёды. Так здараецца час ад часу, калі вагоны ў электрычцы замяняюць вагонамі з іншых цягнікоў.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Каго ў рэгіёне ўзнагародзілі Ордэнам маці

МАЛАДЗЕЧНА
ВІЛЕЙКА
МЯДЗЕЛ

Узнагароду даюць за нараджэнне і выхаванне пяці і больш дзяцей.

Указ пра ўзнагароджанне **Аляксандр Лукашэнка** падпісаў 1 лістапада. У спісе ёсць шматдзетныя мамы з нашага рэгіёна.

Гэта **Аксана Бузоўкіна** з Маладзечна – укладчык-упакоўшчык таварыства «Канфа».

**Алена Гудзель** з Маладзечаншчыны – швачка таварыства «Белпа-Мед».

**Марыя Даражынская** з Мядзельшчыны – жывёлавод гаспадаркі ў Сватках.

**Аляксандра Ларына** з Вілейкі – гаспадыня.

**Вольга Пагуца** з Маладзечаншчыны – работніца дзіцячага садка ў Лебедзеве.

**Іна Пучкіна** – работніца Вілейскага Палаца культуры.

**Паводле PRESIDENT.GOV.BY.**

## У валожынскай аптэцы можна памераць ціск

ВАЛОЖЫН

Такое новаўвядзенне з'явілася ў аптэцы, што каля Дома быту.

Таксама пакупнік тут можа адразу выпрабаваць, а пасля набыць некаторую медыцынскую тэхніку (танометры, тэрмометры).

**Паводле сайта Мінаблвыканкама.**

## У Ашмянах правядуць міжнародную краязнаўчую гасцёўню

На міжнародную краязнаўчую гасцёўню «Сустрэчы ў лістападзе-2018», прысвечаную 250-годдзю з дня нараджэння **Енджэя Снядэцкага**, запрашаюць 9 лістапада ў Ашмяны.

У праграме – экскурсія, канферэнцыя, канцэрт.

**Паводле OSH.BY.**

## 30-кілаграмовую рыбу злавілі на Вілейшчыне

ВІЛЕЙКА

Рыбацкім трафеем стаў таўсталобік.

Яго злавілі на Слабадскім возеры, якое арандуе лясгас. Возера знаходзіцца ў Іжанскім лясніцтве, расказалі ў лясгасе.

**Аддзел інфармацыі.**




Фота з сайта Вілейскага доследнага лясгаса.

Рыбак з трафеем.

# У нас больш не будзе імпартных парашкоў ад прастуды?

## Што кажуць аптэкары, бацькі і доктар

**У сецiве з'явілася інфармацыя, што ў беларускіх аптэках больш не будуць прадаваць імпартныя прэпараты ад прастуды – тыя «парашкі», да якіх многія з нас прывыклі.**




У аптэках рэгіёна засталіся рэшткі імпартных прэпаратаў ад прастуды.

Пішуць, што імпартныя лекі ад прастуды паступова заменяць айчыннымі, больш таннымі прэпаратамі. Мы патэлефанавалі ў аптэкі рэгіёна, каб даведацца, якая сітуацыя ў іх.

### У аптэках рэгіёна засталіся рэшткі імпартных лекаў ад прастуды

У Вілейцы, у аптэцы на вуліцы 1 Мая, пакуль засталіся два найменні прэпаратаў. З шасці аптэк Смаргоні названыя імпартныя парашкі ад прастуды ёсць у дзвюх.

Тое ж тэрафлю ў Мядзеле – толькі ў адной аптэцы, колдрэкс – у дзвюх. Работнікі аптэк кажуць, што гэта рэшткі, якія засталіся ад старога прывозу. Новых прэпаратаў не завозілі.

– У нас застаўся толькі антыгрыпін. З імпартнага больш нічога няма. Ці з'явіцца? Цяжка сказаць. Названыя прэпараты пакуль на перарэгістрацыі, – паведамілі нам у Маладзечне, у аптэцы на вуліцы Скарыны.

### Мамы з Маладзечна: беларускія лекі – таксама нядрэнныя. Але хочацца выбару

Што думаюць на гэты конт жыхары рэгіёна?

– Дзякуй богу, у нашай сям'і хварэюць не часта, – кажа **Таццяна Іваненка**, мама дваіх дзяцей з Маладзечна. Калі напаткае прастуда, стараемся звярнуць увагу на народныя сродкі: журавіны, чорныя парэчкі, маліны, лімон, малако з мёдам. А што да лекаў, то ў нашай сям'і «прыжыўся» якраз беларускі прэпарат, які трэба выкарыстоўваць падчас першых сімптомаў прастуды. Я ні ў якім разе не выступаю з лозунгам «купляйце беларускае», але хачу адзначыць, што не толькі імпартныя прэпараты эфектыўныя.

> **– А яшчэ ў нас ёсць цуда-бабуля з запасам супер-забівальных для прастуды сродкаў: малако з часнаком, цыбуля з цукрам, – жартуе жанчына.**

**Вікторыя Шаўчык** з Маладзечна таксама гадуе дваіх дзяцей. Кажа, дзеці яшчэ невялікія, таму ў сям'і парашкоў ад прастуды не выкарыстоўваюць увогуле, лечацца супрацьвірусными прэпаратамі: свечкамі, каплямі, сіропамі, якія зніжаюць тэмпературу.

– Канешне, для лячэння хочацца выкарыстоўваць найлепшыя прэпараты, але ж трапляюцца і эфектыўныя беларускай вытворчасці, – кажа Вікторыя. – У любым выпадку хочацца, каб быў выбар і даступнасць пры набыцці не толькі беларускіх, але і імпартных прэпаратаў. Я лічу, што вырашаць павінны пакупнік.

### Доктар з Вілейшчыны: уласна беларускіх прэпаратаў ад прастуды няма

Па каментарый мы звярнуліся да доктара адной з участковых бальніц на Вілейшчыне.

– Беларускія прэпараты ад прастуды вельмі блізкія па складзе да імпартных, – тлумачыць доктар. – З тых імпартных лекаў, што я прызначаю хворым, папулярным стала толькі адно найменне. Там добры склад. Прэпарат зніжае тэмпературу, здымае запаленне, да таго ж там ёсць вітамін С. Ведаю шматлікіх бацькоў, якія купляюць беларускі сіроп парацэтамолу. Ён добра дапамагае дзецям, таму бацькі не гоняцца за дарагімі лекамі.

Тое, што з беларускіх аптэк раптам могуць знікнуць замежныя прэпараты ад прастуды, зусім не страшна, паркананы доктар. Па яго словах, цяпер вельмі вялікі выбар беларускіх парашкоў.

А яшчэ, адзначыў спецыяліст, беларускіх парашкоў ад прастуды па сутнасці няма. Усе айчынныя вытворцы працуюць з замежнымі субстанцыямі.

> **Рэчывы для беларускіх лекаў прывозяць пераважна з Пакістана і Кітая. І субстанцыі гэтыя вельмі якасныя, адзначыў доктар.**

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота аўтара.**



Так выглядае абноўлены сайт ЖКГ.

# Новы сайт вілейскай ЖКГ працуе і па-беларуску

ВІЛЕЙКА

**Днямі вілейская ЖКГ запусціла новы сайт. Яго распрацавалі ў межах праекта «Патрэба ў эфектыўным кіраванні жыллёва-камунальнай гаспадаркай». Праект фінансуе Еўрасаюз.**

Пра перавагі і зручнасць новага сайта для жыхароў Вілейкі распавяла «Рэгіянальнай газеце» куратар праекта **Вольга Шляпо**.

### Больш зручна і прыгожа

– Новы сайт выглядае больш прывабна, чым ранейшы. Гэта стварае пазітыўныя адносіны да працы ЖКГ, – лічыць Вольга. – Адмыслова для сайта спецыялісты зрабілі новыя якасныя фотаздымкі.

На думку куратара, сайт стаў больш зручны для карыстальніка па многіх тэхнічных характарыстыках. Напрыклад, на галоўнай старонцы размясцілі заўважныя прамалявання кнопкі, што адпавядаюць кожнаму з блокаў меню. Гэта аблягчае перамяшчэнне карыстальніка па сайце.

Новы сайт мае адаптыўны дызайн – гэта значыць, зручны для тых, хто заходзіць на сайт з мабільных тэлефонаў. Працуе пашукавік, ёсць спасылкі на многія патрэбныя інтэрнэт-рэсурсы. Побач са спасылкамі на Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі і Вілейскі райвыканкам ёсць спасылка на суполку ЖКГ «Укантакце», таксама створаную ў рамках праекта пару год таму. Сайт працуе на дзвюх мовах – беларускай і рускай.

### Больш інфармацыі – больш даверу

Дадалі інфармацыйны блок – справаздачы пра дзейнасць.

– Карыстальніку цяпер даступна больш інфармацыі, а гэта выклікае больш даверу да ЖКГ, – лічыць Вольга Шляпо.

На сайце з'явіўся анлайн-калькулятар камунальных плацяжоў, раздзел «Парады спажыўцам» са зразумелай інфаграфікай.

### І пра дзяцей не забылі

Для дзяцей тут ёсць гульня «Экакідс». У ёй – розныя заданні, звязаныя з адходамі, вадой, электраэнергіяй. Напрыклад, прапануюць сартаваць розныя адходы па спецыяльных кантэйнерах для паасобнага збору смецця. Калі гулец не паспявае за адведзены час правільна гэта зрабіць, ён бачыць, як высякаюцца дрэвы.

На сайце можна падпісацца на рассылку навін, пакінуць водгук аб працы ЖКГ.

Плануюць увесь час абнаўляць інфармацыю, размяшчаць актуальныя навіны.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 1.11 | 8.11 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.1196 | **2.1211** |
| Еўра | 2.4065 | **2.4219** |
| Злоты, 10 | 5.5486 | **5.6104** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.2308 | **3.2157** |
| Грыўня, 100 | 7.5404 | **7.5889** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | 31.10 | 6.11 |
| Еўра | 2.3920/2.4120 | **2.3900/2.4250** |
| Долар ЗША | 2.1140/2.1300 | **2.1000/2.1290** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | 31.10 | 6.11 |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 18,87 | **18,45** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,95 | **3,75** |
| Сасіскі «Малочныя», 1 кг | 6,98 | **6,98** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 8,50 | **8,50** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,40 | **4,40** |
| Селядзец, 1 кг | 3,50 | **5,50** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 13,80 | **13,80** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,10 | **1,10** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,80 | **1,80** |
| Алей, 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,15 | **2,15** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,90 | **1,90** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,70 | **2,20** |
| Агуркі, 1 кг | 2,50 | **2,60** |
| Баклажаны, 1 кг | 1,70 | **2,20** |
| Бульба, 1 кг | 0,40 | **0,45** |
| Буракі, 1 кг | 0,75 | **0,75** |
| Кабачок, 1 кг | 1,00 | **1,00** |
| Капуста, 1 кг | 0,50 | **0,50** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 1,90 | **1,80** |
| Морква, 1 кг | 0,80 | **0,80** |
| Памідоры, 1 кг | 3,20 | **2,60** |
| Перац, 1 кг | 2,20 | **3,90** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,85 | **0,95** |
| Часнок, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Апельсіны, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Бананы, 1 кг | 1,95 | **1,95** |
| Вінаград, 1 кг | 3,90 | **3,50** |
| Гранат, 1 кг | 4,30 | **3,95** |
| Грушы, 1 кг | 1,80 | **1,50** |
| Дыня, 1 кг | 1,80 | **–** |
| Кавун, 1 кг | 0,80 | **0,60** |
| Ківі, 1 кг | 2,95 | **2,90** |
| Лімоны, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Мандарыны, 1 кг | 3,70 | **4,50** |
| Хурма, 1 кг | 4,70 | **3,20** |
| Яблыкі, 1 кг | 0,80 | **0,40** |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,80 | **1,80** |
| Масла, 1 кг | 14,00 | **14,00** |
| Сала, 1 кг | 12,50 | **12,50** |
| Тварог, 1 кг | 6,00 | **6,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | **3,00** |

## У Мінпрацы распавялі, чаму ў чыноўнікаў вышэйшая пенсія

Сёння на сайце Міністэрства працы і сацыяльнай абароны прайшла анлайн-канферэнцыя з міністрам **Валерыем Кавальковым** і начальнікамі ўпраўленняў.

Сярод іншага, у чыноўнікаў спыталіся: ці праўда, што самыя высокія пенсіі ў краіне атрымліваюць былыя дзяржслужбоўцы і вайскоўцы. І якія ў іх цяпер сярэднія памеры пенсій.

– Міністэрства працы і сацыяльнай абароны не мае дадзеных аб пенсіях вайскоўцаў, адказала **Алена Дронава**, начальнік упраўлення арганізацыі пенсійнага забеспячэння. – Што да дзяржаўных службоўцаў, дык іх пенсіі за выслугу гадоў некалькі вышэйшыя за пенсіі па ўзросту на агульных падставах. Больш высокая пенсія – гэта пэўная кампенсацыя тых абмежаванняў, што вызначаны для іх у перыяд праходжання дзяржаўнай службы.

**Паводле «Нашай Нівы».**

## Участак дарогі Мінск-Маладзечна-Нарач стане платным ад першага снежня

Ад першага снежня ў рамках рэалізацыі доўгатэрміновай праграмы Урада Рэспублікі Беларусь па пашырэнні сеткі платных дарог іх працягласць павялічаць за кошт далучэння трох новых участкаў.

У выніку ў нацыянальную сістэму электроннага збору платы за праезд па платных дарогах BelToll дадаткова ўключаць 113 кіламетраў беларускіх дарог, паведамляюць на сайце beltoll.by.

20 кіламетраў дарогі Мінск-Маладзечна-Нарач, ад 12 да 32 кіламетра, стануць платнымі.

Праезд па платных аўтамабільных дарогах, якія ўваходзяць у сістэму BelToll, абавязаны аплачваць вадзіцелі, якія кіруюць наступнымі відамі транспартных сродкаў:

- механічныя транспартныя сродкі з тэхнічна дапушчальнай агульнай масай больш за 3,5 тоны;
- механічныя транспартныя сродкі з тэхнічна дапушчальнай агульнай масай не больш за 3,5 тоны, зарэгістраваныя за межамі Еўразійскага эканамічнага саюза.

**Паводле beltoll.by.**

## Першага лістапада маладзечанец знайшоў на агародзе агурок

МАЛАДЗЕЧНА

«Сам у шоку» – кажа жыхар Маладзечна **Алесь Капуцкі**.

1 лістапада на сваім агародзе мужчына знайшоў вялікі агурок.

Як аказалася, цёплая восень радуе маладзечанцаў такімі сюрпрызамі на градах. У знаёмых Алеся яшчэ растуць памідоры і перцы.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Валожынца будуць судзіць за жорсткае забойства

ВАЛОЖЫН

Здарэнне адбылося 25 красавіка ў Валожыне, у адным з блокаў інтэрната, паведамляе Следчы камітэт.

Медыцынскія работнікі канстатавалі смерць 40-гадовай жанчыны. Муж памерлай сцвярджаў, што ўбачыў жонку на падлозе без прыкмет жыцця.

Аднак у выніку следчых дзеянняў даказалі крымінальны характар смерці жанчыны, што стала падставай для затрымання гэтага 39-гадовага мужчыны.

Падчас першапачатковага допыту абвінавачваны патлумачыў, што жонка сама ўпала на сушылку і ўдарылася. Аднак потым устанавілі, што сямейная пара, якая жыла ў інтэрнаце з двума малымі дзецьмі, раней стаяла на ўліку як сацыяльна-небяспечная. Жанчына распавядала знаёмым, што муж яе збівае, але ў міліцыю не звярталася.

Па дадзеных следства, напярэдадні злачынства абое пілі. У выніку сваркі мужчына жорстка збіў жонку. Ён нанёс больш за 30 удараў рукамі і нагамі ў жыццёва-важныя органы жанчыны, што стала прычынай смерці. Потым пайшоў да дзяцей глядзець тэлевізар.

Калі ўбачыў жонку мёртвай на падлозе, паспрабаваў схаваць сляды злачынства. Праз некалькі гадзін патэлефанаваў знаёмаму і папрасіў выклікаць «хуткую дапамогу» для жонкі, якой нібыта стала дрэнна.

Расследаванне завяршылі.

**Паводле СК Рэспублікі Беларусь.**

## На мытні знайшлі 230 кілаграмаў жавальнага тытуню

АСТРАВЕЦ

Гродзенскія мытнікі спынілі незаконнае перамяшчэнне ў ЕЭС каля 230 кілаграмаў жавальных тытунёвых вырабаў.

Грузавы аўтамабіль Mercedes ехаў з Літвы ў Расію праз «Катлоўку». Туды перамяшчалі тэрмапластычныя сінтэтычныя матэрыялы. Аднак на мытні знайшлі ў грузавым адсеку больш за 20 тысяч пластыкавых упаковак з жавальным тытунём снюса. Агульная вага тавару – каля 230 кілаграмаў.

Пачалі адміністрацыйны працэс.

За захоўванне, распаўсюджванне, перавозку насвая, снюса ды іншых жавальных прэпаратаў, якія змяшчаюць тытунь з дадаваннем вапны ды іншай нетабачнай сыравіны, заканадаўствам Рэспублікі Беларусь прадугледжаная адміністрацыйная адказнасць, у тым ліку ў выглядзе арышту і штрафу да 40 базавых велічынь.

**Паводле Дзяржпагранкамітэта.**



## Кіроўца наехаў на бетонную пліту. Пацярпелі тры пасажыры

МАЛАДЗЕЧНА

У нядзелю каля гадзіны ночы ў вёсцы Плябань на Маладзечаншчыне здарылася аварыя.

33-гадовы маладзечанец на Volkswagen Passat ехаў у накірунку Маладзечна. Мужчына з'ехаў у кювет.

Там ён наехаў на бетонную пліту вадасцёкавай канавы. У выніку тры пасажыры 37, 35 і 32 гадоў атрымалі розныя траўмы.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

## У бальніцы памёр пешаход, які трапіў у ДТЗ каля Маладзечна

МАЛАДЗЕЧНА

У рэанімацыйным аддзяленні маладзечанскай бальніцы першага лістапада ў 17:00 памёр пешаход, які атрымаў траўмы ў ДТЗ 26 кастрычніка.

Аварыя адбылася каля Маладзечна пасля дзесяці вечара. На 77-м кіламетры аўтадарогі Мінск-Маладзечна-Нарач 34-гадовы жыхар Мядзельскага раёна на Alfa Romeo Giulietta наехаў на 30-гадовага жыхара Маладзечна, які ішоў па праезнай частцы. Флікера на ім не было.

Пацярпелага з адкрытай чэрапна-мазгавой траўмай і іншымі пашкоджаннямі забралі ў рэанімацыю. Праз некалькі дзён ён памёр.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

# Віляйчук падсадзіў на наркотыкі дзвюх 15-гадовых дзяўчат



Фота з сайта СК Рэспублікі Беларусь.

Так фігурант захоўваў наркатычныя рэчывы.

ВІЛЕЙКА

### Следчы камітэт завяршыў расследаванне па крымінальнай справе ў дачыненні да 29-гадовага жыхара Вілейкі.

Яго вінавацяць па некалькіх артыкулах Крымінальнага кодэкса. Абвінавачанага затрымалі ў маі. Па аператыўных дадзеных, мужчына з дапамогай спецыяльнага абсталявання вырошчваў каноплі на прысядзібным участку, высушваў расліны дзеля збыту. Дачыненне фігуранта да незаконнага абароту наркотыкаў пацвердзілася. У доме, гаражы і іншых месцах знайшлі розныя матэрыялы і прыстасаванні для вырошчвання і фасавання забароненых рэчываў.

Знайшлі каля чатырох кілаграмаў марыхуаны, а таксама макавую саломку, гашышны алей і іншыя наркатычныя рэчывы.

Следчым стала вядома, што фігурант неаднаразова прапаноўваў спіртныя напоі і наркотыкі падлеткам, якія прыходзілі да яго. Мужчына схіліў іх да ўжывання марыхуаны.

Ведаючы пра 15-гадовы ўзрост дзвюх мясцовых жыхарак, мужчына па ўзаемнай згодзе ўступаў з імі ў палавыя зносіны.

Абвінавачанага заключылі пад варту. Крымінальную справу перадалі ў пракуратуру для накіравання ў суд.

**Паводле СК Рэспублікі Беларусь.**

## У ДТЗ на Вілейшчыне загінуў лось

ВІЛЕЙКА

3 лістапада каля 12:00 на дарозе Ушачы-Вілейка віляйчанін наехаў на лася.

Лось выскачыў на дарогу нечакана, кіроўца не паспеў прадухіліць сутыкненне, распавялі ў РАУС Вілейкі.

Падчас здарэння мужчына не пацярпеў, ад удару пашкодзілася лабавое шкло машыны. Лось загінуў.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## У віляйчанкі скралі 400 долараў і 50 рублёў

ВІЛЕЙКА

Крымінальную справу ўзбудзілі 1 лістапада.

У міліцыю звярнулася 43-гадовая грамадзянка А. Яна паведаміла, што 1 лістапада ад 7:00 да 14:00 невядомы, знаходзячыся ў яе доме, скраў 400 долараў і 50 рублёў.

Міліцыянеры ўстанавілі падазраванага ў злачынстве. Гэта 30-гадовы жыхар Вілейкі, які нідзе не працуе і ўжо быў судзімы за крадзеж.

Падазраванага затрымалі. Частку грошай забралі і вярнулі заяўніцы.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

## Машына маладзечанскага кіроўцы перакулілася на дах на Вілейшчыне

МАЛАДЗЕЧНА
ВІЛЕЙКА

Кіроўца не пацярпеў.

Аварыя здарылася першага лістапада каля шасці раніцы.

Кіроўца з Маладзечаншчыны на 103-м кіламетры аўтадарогі Барысаў-Ашмяны на аўтамабілі Volkswagen ехаў у бок Барысава, распавялі ў Вілейскім РАУС.

На закругленні дарогі мужчына не справіўся з кіраваннем і з'ехаў у кювет. Машына перакулілася на дах. Мужчына быў цвярозы, прышпілены рамянём бяспекі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Сутыкнуліся «Пасат» і «Газэль». «Пасат» перад гэтым збіў пенсіянерку

АШМЯНЫ

СК у сваім тэлеграм-канале паведамляе пра два ДТЗ, што адбыліся сёння на Ашмяншчыне.

На аўтадарозе Барысаў-Вілейка-Ашмяны, недалёка ад в.Нарбуты, сутыкнуліся «Фольксваген-Пасат», які кіраваў 30-гадовы жыхар Ашмянаў, і «Газэль». У выніку ДТЗ кіроўца легкавіка шпіталізаваны. Траўмы рознай ступені цяжкасці атрымалі таксама кіроўца і пасажырка «Газэлі», аднак шпіталізацыя ім не спатрэбілася.

Амаль адначасова з паведамленнем пра гэта ДТЗ у Ашмянскі РАУС паступіла паведамленне, што ў бальніцы памерла 76-гадовая пенсіянерка, дастаўленая раніцай 3 лістапада з вуліцы Чырвонаармейскай у Ашмянах.

Было ўстаноўлена, што атрыманыя пенсіянеркай траўмы характэрныя для наезду транспартнага сродку. Акрамя таго, узятыя з месцаў абодвух здарэнняў сляды дазваляюць зрабіць высновы пра ўзаемасувязь дзвюх падзей. Пацвердзілася версія наезду на пешахода «Фольксвагена-Пасата».

**Паводле СК Рэспублікі Беларусь.**

## У смаргонца канфіскавалі 277 літраў спірту

СМАРГОНЬ

У смаргонца знайшлі і канфіскавалі этылавы спірт, непрыдатны для ўжывання.

Намеснік начальніка РАУС **Антон Курыловіч** распавёў, што міліцыянеры ў адной з вёсак раёна ў гаспадарчых пабудовах, якія належаць грамадзяніну Ф., знайшлі і канфіскавалі 277 літраў этылавага спірту. Спірт накіравалі на экспертызу. Устанавілі, гэта спірт мацункам ад 31 да 95 градусаў.

Лёс грамадзяніна вырашыць суд.

**Паводле SHLIAH.BY.**

# Виталий Кочетков: «Беларусбанк» помог построить историю успеха в бизнесе, творчестве и шахматах





**Виталий Кочетков – известный бизнесмен, музыкант и шахматист из Молодечно. Именно «Беларусбанк» стал тем фундаментом, на котором он выстроил свою историю успеха.**

Виталий Борисович создал успешный бизнес в совершенно разных направлениях. Горожане не перестают удивляться, как в одном человеке может слиться интерес к стольким областям. Ему доверяют как опытному хозяину магазина сантехники по Чкалава, 4. Многие ценят его магазин «Кофф» на Ларина, 2а за доступность и качество вещей из Европы. По этому же адресу размещен банкетный зал «Глухарь», который выбирают для торжеств в уединенной обстановке.

В 2005 году, когда у Кочеткова завертелся бизнес на полную мощность, он встал перед выбором – какому банку доверить финансовые дела. Он как опытный шахматист проанализировал все возможные варианты, просчитал риски и принял решение, будучи уверенным в его правильности. Для того, чтобы чувствовать надежность и уверенно заниматься делами, стоит выбрать обслуживание в «АСБ Беларусбанк».

– Любой бизнесмен оценивает риски. Кто-то надеется на быструю и рискованную прибыль. Я же ставлю на первое место целеустремлённость. Если партнёр помогает достичь амбициозных целей и при этом помогает быть уверенным в том, что под ногами твёрдая земля – это самый лучший выбор.

### Финансовый тыл позволяет заниматься любимыми делами

Став клиентом «Беларусбанка», Виталий Кочетков смог развить каждый из своих бизнесов. Дела идут хорошо, и молодечненец может себе позволить заниматься и другими делами. Он добился успеха и в музыкальной карьере. Его песни любят и часто ротируют в Беларуси, России и других странах. Музыку и клипы любят за теплоту. А его сотрудничество с журналистом «Рэгіянальнай газеты» и поэтом Оксаной Ярошенок подарило миру несколько десятков нежных композиций на белорусском и русском языках.

В последние годы Виталий Борисович горит еще одной идеей. Он активно обучает детей и взрослых игре в шахматы. Он блестяще идет по лестнице карьеры в любом из направлений. Теперь же помогать другим быть более перспективными и достигать желаемого. На его взгляд, нет ничего лучше для зарядки мозга, чем шахматы.

Чтобы учить королевской игре тысячи людей, он издал в прошлом году книгу «Мат в один ход». В ней автор привёл диаграммы шахматных задач, которые должны привести к мату. Издание получилось настолько универсальным и нужным, что им пользуются даже тренеры в США.

В этом году мастер спорта международного класса издает книгу – «Тактика для начинающих чемпионов». Она будет полезна молодым родителям, дедушкам и бабушкам, которые хотят, чтобы их ребёнок, внук или внучка развивались успешными и перспективными.

Виталий Кочетков – отец троих детей. Он прекрасно знает, что никакое дело не приносит удовольствия, если не даёт финансовую обеспеченность семье. Благодаря «Беларусбанку» он может быть уверен, что у его семьи всегда есть финансовый тыл.

Постройте свою историю успеха. Для этого вам необходим надёжный финансовый партнёр, который никогда не подведёт.

БЕЛАРУСБАНК

# «Беларусбанк» – это надёжность и выгода

ОАО «АСБ Беларусбанк» – крупнейшая кредитно-финансовая организация в Беларуси. Многолетний опыт работы позволяет обеспечить профессионализм и высокое качество обслуживания клиентов. Филиал № 601 ОАО «АСБ Беларусбанк» в Молодечно готов предложить **выгодные условия сотрудничества.**




Фото wikimapia.org.

**1. Расчётно-кассовое обслуживание** проходит в рамках пакетов услуг. Разработана широкая линейка пакетов услуг с учетом особенностей и потребностей именно вашего бизнеса.

Бесплатно осуществляется приём наличных в белорусских рублях для перечисления на счёт клиента, если он подключён к соответствующему пакету услуг.

**2. Кредитные продукты** в рамках программы поддержки МСБ:

• более низкие по сравнению с большинством банков Беларуси процентные ставки. По отдельным продуктам – от 1/2 ставки рефинансирования НБРБ;

• снижены требования к размеру обеспечения по кредитам. В некоторых продуктах только поручительство физических лиц;

• возможна выдача кредитов вновь зарегистрированному субъекту хозяйствования;

• упрощённый пакет документов.

Чтобы расширить возможности своих клиентов, ОАО «АСБ Беларусбанк» создали **партнёрскую программу «МОСТ»** для сегмента B2B.

В рамках программы возможно кредитование потенциальных потребителей на покупку товаров (оплату услуг, работ) у партнёров банка с уплатой ими минимальных процентов по кредиту (в размере 0,00001% годовых). Достаточно предоставить в Банк упрощённый пакет документов.

Кроме вышеперечисленных, ОАО «АСБ Беларусбанк» предлагает весь спектр услуг для развития Вашего бизнеса:

• депозитные операции;

• выдача банковских гарантий;

• зарплатные проекты;

• банкострахование;

• партнёрская (бонусная) программа для организаций торговли и сервиса.

**Полную информацию об услугах банка для корпоративных клиентов Вы можете получить на сайте belarusbank.by.**

ОАО «АСБ Беларусбанк» УНП 600198997

## Якія арганізацыі рэгіёна гарантуюць якасць

**Сёлета 8 лістапада адзначаюць Сусветны дзень якасці. Еўрапейскі тыдзень якасці праходзіць ад 5 да 11 лістапада пад дэвізам «Якасць – гэта поспех!».**

У Беларусі заўсёды лічылі, што канкурэнтаздольнасць і паспяховае развіццё прадпрыемстваў і арганізацый у першую чаргу залежаць ад якасці прадукцыі. У будучым у лепшым становішчы апынуцца тыя прадпрыемствы, якія змогуць забяспечыць высокую якасць, навізну і канкурэнтаздольнасць.

Неабходна забяспечыць высокі ўзровень вытворчасці ў цэлым. Асаблівую ўвагу накіраваць на кантроль якасці тэхналагічных працэсаў. Важна аператыўна знаходзіць хібы на ўсіх этапах вытворчасці.

Шукайце і ўкараняйце новыя тэхналогіі, якія забяспечваюць вытворчасць прадукцыі з найменшымі выдаткамі. Яны зэканомяць працу, дапамогуць выйсці на рынкі з новай прадукцыяй.

Увесь персанал прадпрыемства, ад найвышэйшага да ніжэйшага звяна, павінны быць уцягнуты ў працэс павышэння якасці прадукцыі. Для гэтага варта выкарыстоўваць сістэму матывацыі і стымуляцыі. Кіраванне якасцю павінна быць сістэмным, трэба ўкараняць сучасныя міжнародныя сістэмы кіравання якасцю.

У нашым рэгіёне такія прадпрыемствы, як ЗАТ «Струміла», ТАА «Вялес-Міт», ЗАТ «Дыліс-Касметык», ТАА «БЕЛПІ-Мёд», ЗАТ «Маладзечнамэбля», пастаянна працуюць над удасканаленнем якасці, забяспечваюць устойлівае становішча на ўнутраным і знешнім рынках.

Якасць прадукцыі напрамкі ўплывае на попыт. Калі вы выпускаеце высакаякасную прадукцыю, гэта гарантуе збыт. Гэта спрыяе і эканоміцы краіны, і ўзроўню жыцця насельніцтва.

**Аксана ПЯРШАЕВА,**
**галоўны дзяржаўны інспектар аддзела дзяржнагляду за тэхрэгламентам і стандартамі дзяржаўнага метралагічнага нагляду.**

# Юныя даследчыкі з рэгіёна перамаглі ў Гродзенскай вобласці

СМАРГОНЬ
АШМЯНЫ
АСТРАВЕЦ

**У першы тыдзень асенніх канікулаў вучні з Ашмянаў, Астраўца і Смаргоні паўдзельнічалі ў дзясятым абласным навукова-даследчым конкурсе «Крыштальная альфа», што праводзілі ў Гродзенскай вобласці.**

Працавала 15 секцый, якімі кіравалі выкладчыкі Гродзенскага дзяржуніверсітэта імя Янкі Купалы, абласнога інстытута развіцця адукацыі. У склад журы ўвайшлі навуковыя работнікі, а таксама педагогі, якія займаюцца навуковай дзейнасцю са сваімі вучнямі. На конкурс прадставілі 227 работ.

**Журы адзначыла трох удзельнікаў са Смаргоншчыны.**

Лепшай у секцыі «Біялогія» стала **Аліна Кодзь**, вучаніца 11 класа з сярэдняй школы №2 Смаргоні. Праца па тэме «Колькасць бабра рачнога (Castor fiber L.) і яго жыццядзейнасць у экасістэме ракі Гервятка на тэрыторыі горада Смаргоні» ўдастоеная дыплома I ступені.




Настаўнік з Крэва Міхаіл Міхалькевіч са сваёй вучаніцай Вікторыяй Копыш.

Дыпломам II ступені ў гэтай жа секцыі ўзнагародзілі **Арыну Ігнатовіч**, вучаніцу 9 класа смаргонскай гімназіі. Арына прадставіла на конкурс вынікі даследавання па тэме «Вывучэнне поспеху размнажэння бусла белага (Ciconia ciconia) на мадэльнай пляцоўцы Смаргонскага раёна».

У секцыі «Гісторыя» паспяхова выступіла вучаніца 10 класа Крэўскіх ясляў-сада-сярэдняй школы **Вікторыя Копыш**. Даследчую працу «Крэва: дэмаграфія, тапаніміка, ранняя гісторыя» адзначылі дыпломам III ступені.

Адзначыліся і некаторыя астраўчане. **Яраслаў Стэх** з астравецкай школы №1 заняў трэцяе месца ў секцыі «Замежныя мовы». Хлопец расказаў пра цяжкасці перакладу назваў фільмаў з англійскай мовы на рускую.

**Раман Зубкоўскі** з астравецкай школы №2 таксама стаў трэцім у секцыі «Фізіка. Астраномія». Ён распавёў пра рэзананс матэматычных маятнікаў.

Два дыпломы дадому прывезлі школьнікі з Ашмянаў. Вучань школы №3 **Уладзіслаў Ігнатовіч** вывучаў, як арганізоўвалі мабілізацыю ў Ашмянскім павеце падчас Першай сусветнай вайны. Вынікі даследавання ў секцыі «Гісторыя» журы ацаніла дыпломам III ступені.

**Елізавета Пекер** з ашмянскай школы №1 выступала ў секцыі «Геаграфія». Яе праца «Геданімія Ашмянаў як адлюстраванне развіцця гарадскога ландшафту» заняла другое месца. Дзяўчына даследавала гедонімы – групу назваў, якія нясуць у сабе высакародны сэнс.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Хлопчык з Маладзечна гуляе ў Counter Strike дзеля зносін

МАЛАДЗЕЧНА

**У Сямёна Качаткова з Маладзечна ў Counter-Strike шмат сяброў з розных краін свету: Амерыкі, Францыі, Англіі, Расіі, Украіны, Літвы. Са шматлікімі з іх Сямён кантактуе па-англійску.**

У ЗША ў маладзечанца ёсць сябар **Майкл** са штата Арагон горада Куус-бэй. Сямён ведае, што Майклу 13. Ён вучыцца ў сёмым класе ў платнай школе. Вывучае там матэматыку, англійскую мову, натуральныя навукі, займаецца фізкультурай. Прадмет «натуральныя навукі» – гэта не хімія альбо фізіка. На гэтым уроку яны праводзяць цікавыя доследы. Аднак ёсць яшчэ і фізіка, і хімія, і замежная мова (руская), і шахматы, і гісторыя. Майкл – чысты амерыканец. Яго прадзед з Бразіліі.

Сям'я амерыканскага сябра – гэта сам Майкл, тата, мама, трохгадовая сястра **Элізабет** і сабака хаскі – Боці. Яны жывуць у трохпавярховым доме, які пабудавалі самі. Мама працуе цырульнікам. Тата – прадпрымальнік. Ён прадае камп'ютарную тэхніку ва ўласнай краме. Па словах Майкла, крама яго бацькі – адна з лепшых у горадзе.

Сям'я мае тры машыны. Адна з іх, спорт-кар, каштуе трыста тысяч долараў. Майкл займаецца змешанымі баявымі мастацтвамі і любіць гуляць у еўрапейскі футбол з сябрамі. Па змешаных баявых мастацтвах хлопец мае сур'ёзнае дасягненне – ён сярэбраны прызёр ЗША ў 2016 годзе.

Са зносінаў з Майклам Сямён засвойвае розныя моладзевыя слэнгавыя фразы. Адна з іх – «шат ап, Боці» – «змоўкні, Боці». Боці – гэта сабака, які гучна брахаў падчас гульні.

**Віталь КАЧАТКОЎ,**
**Маладзечна.**

Даведка «РГ». Counter-Strike – самая папулярная сёння камандная гульня, у якую гуляюць мільёны. Па сетцы ў яе могуць гуляць людзі з розных краін свету.



Сямён Качаткоў вучыцца англійскую дзякуючы гульні Counter-Strike.




Пісьменнік Уладзімір Садоўскі выступае ў ролі экскурсавода. Распавядае аматарам даўніны пра польскі вайсковы гарадок Гелянова. Красавік, 2018 год.




Вокладка кнігі Уладзіміра Садоўскага адсылае да творчасці мастака Казіміра Малевіча.

# Пісьменнік з Маладзечна выдаў зборнік фантастыкі

**Не так даўно ўраджэнец Маладзечна Уладзімір Садоўскі выдаў электронную кнігу фантастычных апавяданняў «Проста фантастыка».**

МАЛАДЗЕЧНА

Гэта не дэбют нашага земляка. Пару год таму Уладзімір, да гэтага вядомы як краязнаўца, журналіст, экскурсавод, выдаў зомбі-хорар «1813» – фантастычны твор, прысвечаны кампазітару і грамадскаму дзеячу **Міхалу Клеафасу Агінскаму**.

## Захапілі фантастычныя апавяданні, напісаныя ў дзяцінстве

Па словах аўтара, у зборнік увайшлі тэксты, напісаныя за апошнія дзесяць гадоў: нешта з гэтага публікавалася раней у папяровых і электронных літаратурных часопісах ці міжаўтарскіх зборніках, нешта з апавяданняў чытач убачыць у зборніку ўпершыню.

– Усе апавяданні – гэта фантастыка ва ўсіх яе праявах, ад касмічных палётаў да альтэрнатыўных сусветаў, – кажа Уладзімір пра сваю новую кнігу.

Захапленне фантастыкай – са школьнага дзяцінства. Пісьменнік расказаў, што ў дзяцінстве вельмі любіў чытаць. Чытаў усё запар, акрамя школьнай праграмы, бо яна здавалася хлопчыку тады сумнай і нецікавай, але з часам гэта стаўленне памянялася.

– І вось аднойчы я ўзяў у бібліятэцы зборнік фантастычных апавяданняў заходніх аўтараў пад назвай «Прадаецца планета», выдадзены яшчэ ў 1988 годзе, – дзеліцца дзіцячымі ўспамінамі субяседнік. – Усе апавяданні там былі як на падбор, лепшае ад класікаў еўрапейскай і амерыканскай фантастыкі. З таго часу я палюбіў як жанр кароткае фантастычнае апавяданне з нечаканым фіналам.

## Ластоўскі і Лаўкрафт натхнілі на эксперымент

Ці ёсць у кнізе твор, які найбольш падабаецца самому аўтару? «Ёсць», – прызнаецца пісьменнік. Гэта яго эксперымент у жанры «мэшап» (перамешванне) – апавяданне «Лабірынты безыменнага горада».

– Я задумаў яго яшчэ дзесяць гадоў таму, калі паралельна чытаў беларускага гісторыка-літаратара **Вацлава Ластоўскага**, у якога таксама ёсць твор «Лабірынты», і амерыканскага пісьменніка літаратуры жахаў **Говарда Лаўкрафта**, – кажа аўтар. – Мяне тады ўразіла, наколькі былі падобныя іх творы, напісаныя прыкладна ў адзін час, у 1920-я, але на супрацьлеглых баках планеты.

**Тады творчы маладзечанец падумаў, што добра было б перамяшаць апавяданні двух пісьменнікаў у адно так, каб гэта выглядала новым арганічным творам.**

Нядаўна Уладзімір здзейсніў задуманае. І, як падаецца самому аўтару, атрымалася добра.

– Безумоўна, гэта толькі літаратурны эксперымент, і майго аўтарскага тэксту там ад сілы пяць адсоткаў, – прызнаецца субяседнік. – Але тым не менш праца па склейванні твораў была для мяне не менш творчай, чым напісанне ўласнага тэксту.

## Назву прыдумаў, вокладку зрабіў

На думку Уладзіміра, кніга будзе цікавая такім самым аматарам фантастыкі, як ён. Тым, хто вырас на апавяданнях **Брэдберы, Шэклі** ці **Азімава**, і тым, хто сочыць за сучаснымі фантастычнымі плынямі. Ну і аматарам фантастычных фільмаў і камп'ютарных гульняў, дадае пісьменнік.

Выдаць кнігу ў Беларусі не заўсёды лёгка. Як гэта атрымалася ва Уладзіміра Садоўскага? Аказваецца, у выданні не было нічога цяжкага. Папярэдні досвед выдання кнігі – зомбі-хорара «1813» – даў, па яго словах, пэўны карт-бланш перад выдаўцом.

– Калі я напісаў, што хацеў бы выдаць зборнік фантастычных апавяданняў, выдавец адразу пагадзіўся. Да таго ж электронная кніга нашмат менш затратная для выдаўца, чым папяровая. Магчыма, калі электронная версія будзе мець поспех у продажы, за ёй з'явіцца і папяровая, але калі гэтага не адбудзецца, я не буду расчараваны, – разважае Уладзімір.

Назву да зборніка Уладзімір прыдумаў сам. Часта зборнікам даюць назву аднаго з апавяданняў з кнігі, але ён вырашыў выкарыстаць устойлівы выраз «Проста фантастыка», каб чалавек, які пабачыць вокладку, адразу зразумеў, што ўнутры будуць выдуманыя фантастычныя сусветы. Нічога іншага ад кнігі з такой назвай чакаць не даводзіцца.

Больш за тое, афармленне вокладкі – таксама аўтарскае.

**– У нашых варунках аўтару прозы часцяком даводзіцца быць і дызайнерам, і вярстальшчыкам, і маркетолагам, і яшчэ шмат кім апроч уласна стваральніка тэкстаў, – лічыць Уладзімір.**

Гэта вокладка кампрамісны варыянт: у выдаўца проста не было грошай на мастака, які б намаляваў вокладку з нуля. Тым не менш у свой малюнак Уладзімір Садоўскі заклаў адразу дзве спасылкі да сусветнай культурнай спадчыны. Гэтыя палосы і кругі, па-першае, адсылаюць да творчасці **Казіміра Малевіча**, які вынайшаў мастацкі стыль супрэматызм, а, па-другое, да вокладкі альбома «Група крыві» гурта «Кіно».

## Час новых твораў надышоў

– Лідар гурта «Кіно» **Віктар Цой**, як вядома, сам быў вялікім аматарам навуковай фантастыкі і некаторыя ягоныя песні напісаныя пад уражаннем ад фантастычных апавяданняў, – распавёў Уладзімір.

**Новую кнігу аўтар лічыць падсумаваннем таго творчага шляху, які ён ужо прайшоў, бо тут сабраныя апавяданні, напісаныя за апошнія дзесяць гадоў. Таксама гэта і штуршок да чагосьці новага**

– Раз усё папярэдне напісанае выдадзенае, значыць, прыйшоў час пісаць новае, і такія задумы ў мяне ўжо ёсць, – падсумаваў пісьменнік.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# У калаўроце бачыў ён сусвет

## 9 лістапада споўнілася б 70 год вядомаму беларускаму мастаку-графіку Юрыю Герасіменку-Жызнеўскаму

**Мала ў каго сёння нават на вёсцы знойдуцца кросны або калаўрот. Між тым гэта сакральны інструмент, да якога з асаблівай пашанай ставіўся мастак Герасіменка-Жызнеўскі.**

*Перада мной*
*клубочак нітак з лёну.*
*Яго матуля прала*
*вечарамі.*
*Сваім цяплом мяне ён*
*саграває*
*І даражэй становіцца*
*з гадамі.*
*(Ю. Церабун)*

Пра калаўрот ходзіць шмат легендаў і прымавак – «не напрадзеш зімою, не будзе з чаго ткаць летам», «не лянуйся прасці, добра апранешся».

Быў нават такі звычай. Жаніх дарыў дзяўчыне новы, зроблены сваімі рукамі, калаўрот, каб тая не адмовіла выйсці за яго замуж.

Недзе каля 1490 года Леанарда да Вінчы вынайшаў прыстасаванне з рагулькамі, якія намотвалі ніткі, і ручным прыводам. Ад 16 стагоддзя з'явілася педаль, якой можна круціць кола.

У калаўрота надзвычай цікавая канструкцыя. Шпулька і рагулька звязаныя з прывадным колам двума асобнымі пасамі з вяровачкі, кожная сваім. Дзякуючы розніцы ў дыяметры шківаў рагулька круціцца хутчэй за шпульку. Гэтым накручвае на яе ніткі.

Юры Герасіменка-Жызнеўскі шанаваў калаўрот. Для яго кола ўяўлялася зямлёй, а шпулька з рагулькай – месяцам. Нібы зямля круціцца вакол сваёй восі, а месяц – побач.

**Мастак мог гадзінамі ляжаць на зямлі і глядзець на зорнае неба. Усё казаў: «Вось бы пабыць там».**

Ён глыбока, па-філасофску падыходзіў да кожнай хатняй рэчы, выкарыстоўваў іх у сваіх творах. Мастак тлумачыў, што праз калаўрот нельга нічога перадаваць ці браць. Прастора за калаўротам – патаемная. А ўсё разам – гэта сусвет.

Студня, плуг, барана, дуга, хамут, вілы, граблі, бязмен, старыя паламаныя рэчы знаходзілі ўвасабленне ў яго таленавітых графічных кампазіцыях.

**Яго майстэрства напоўніцу раскрылася ў партрэтах Янкі Купалы, Якуба Коласа, Генадзя Каханоўскага, Ядвігі Раздзялоўскай, аўтапартрэтах.**

### Вучань Шаранговіча

Герасіменка – вучань мастака Васіля Шаранговіча. Васіль Пятровіч паходзіць з вёскі Качаны Мядзельскага раёна. Быў загадчыкам кафедры графікі Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута, потым яго рэктарам. Працаваў дырэктарам музея сучаснага выяўленчага мастацтва. Цяпер на гэтай пасадзе працуе яго дачка **Наталля**.

Шаранговіч – заслужаны дзеяч мастацтваў БССР, заслужаны дзеяч культуры Польшчы, народны мастак Беларусі, прафесар. Працуе ў галіне кніжнай і станковай графікі.

Шаранговіч прапаноўваў Герасіменку застацца працаваць на іх кафедры. Але той не пагадзіўся і паехаў у Маладзечна.

### Слухаў, як іграюць на цымбалах

Юры Паўлавіч ніколі не выхваляўся эрудыцыяй і глыбінёй мыслення. З простымі людзьмі размаўляў з сялянскай мудрасцю. На роўных падтрымліваў размовы з Ядвігай Раздзялоўскай.

Часта знаходзіў хвілінку зайсці да мяне ў клас. Любіў слухаць, як дзеткі іграюць на цымбалах. Спадзяюся, мастак быў бы задаволены, якімі музыкантамі і педагогамі сталі сёння тыя дзяўчаткі, што некалі ігралі яму.

### Адчуў чарнобыльскі выбух

Мастакоў і музыкаў трэба выхоўваць у творчым асяроддзі. Таму мы з вучнямі ездзілі на выставы ў Мінск, наведвалі канцэрты ў музычным вучылішчы. Усё жыццё я жыў словамі «Настаўнік, вучня выхавай сабе, каб потым у каго было вучыцца». А сёння прыдумаў сабе новыя словы: «Мастацтва – таксама хвароба».

Вось і Герасіменка захварэў ад мастацтва. Нездарма кажуць, што людзі мастацтва асаблівыя. Заўсёды маўклівыя, у думках, творчых пошуках.

**Ён шмат працаваў як кніжны графік. Выдавецтвы часта дасылалі гнеўныя лісты, што зрываюцца тэрміны выпуску кніг.**

Мастак ніколі нічога не рабіў абы-як. Таму і сёння кнігі з яго ілюстрацыямі лічацца шэдэўрамі кніжнай графікі.

У той дзень ён быў на эцюдах і грэўся пад веснавым сонейкам. Пасля казаў, цела без майкі пачало пашчыпваць. Так ён адчуў на сабе чарнобыльскі выбух.

### Наведаў ГУЛАГ

З мастацтвазнаўцам **Кірылам Зяленым** вырашылі пабываць на Салавецкіх астравах, каб наведаць ГУЛАГ. Поўнач, Белае мора з халоднай вадой, манастыр драўлянага дойлідства, каменныя лабірынты, выкладзеныя кругамі на зямлі. Усё гэта моцна ўразіла творцаў. Старыя казематы ў мурах, казармы тых часоў, вышкі для ахова, калючы дрот, адмоўная энергетыка. Відаць, усё гэта зрабіла сваю справу.

Пасля вяртання мастак станавіўся ўсё больш маўклівым. Але пра хваробу не казаў ні слова. Папрасіў падарыць яму альбом пра Янку Купалу і пласцінку «Рэквіем» Моцарта.

Выставу да яго 50-годдзя ладзілі без юбіляра. Пражыў творца 49 год. Пахаваны ў Даўгінаве Вілейскага раёна, на радзіме.

Кірыл Зяленоў перажыў мастака на сем год.

Захоўваю запрашальны білет на тую памятную выставу, у якой удзельнічаў 20 год таму. На ім хтосьці з нашых маладзечанскіх мастакоў выканаў арыгінальны малюнак. На цёмным фоне неба ляціць да зямлі камета. А на шлейфе подпіс – «Ю. Герасіменка».

**Юрась ЦЕРАБУН,**
**Маладзечна.**


Фота Аляксея ФЯЦІСАВА.

Юры Герасіменка-Жызнеўскі нарадзіўся ў Даўгінаве Вілейскага раёна.

● БЕЛАРУСЬ – ГЕРМАНІЯ. З ЛЮДСКІХ ГІСТОРЫЙ



Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА

Пра тое, што на Мядзельшчыне падчас Першай сусветнай адбываліся маштабныя баі, сведчаць пахаванні тых часоў. На фота – беларуская і нямецкая моладзь прыбірае пахаванне Першай сусветнай у Проньках на Мядзельшчыне. Жнівень, 2018 год.

# Немцы пабудавалі чыгунку, альтанку, паказвалі кіно

## Успаміны жыхара вёскі Кабыльнік пра Першую сусветную вайну

МЯДЗЕЛ

**Успаміны свайго земляка Маліноўскага, жыхара вёскі Кабыльнік, даслаў краязнаўца і гісторык Вадзім Праўрацкі.**

Мабілізацыю падчас Першай сусветнай у Кабыльніцкай воласці правялі 2 жніўня 1914 год (па новым стылі), якраз на праваслаўнае свята Іллю. Мабілізаваных адпраўлялі ў Свянцяны на фурманках.

У канцы жніўня 1915 года прыйшлі немцы і пайшлі далей на Мінск, а дзесьці ў верасні іх назад пагналі рускія да вёскі Пасынкі.

### Сяляне нічога не сеялі, бо вакол фронт

У 1915 годзе хадзілі па палях нямецкія коні. Іх лавілі нашы людзі, але не было чым карміць, і зноў адпускалі. Людзі ў 1916-1917 гадах галадалі. У 1918 таксама, але крыху менш. На палях нічога не сеялі – вакол фронт. Толькі бульбу садзілі ў агародзе. У палях немцы сеялі для сваіх войскаў.

Усё насельніцтва з прыфрантавой паласы з Беймішак, Хаднікоўшчыны, Галубенек, Сырмежы, Купы выселілі на палігоны, дзе праходзіла вучоба нямецкіх салдат.

Для афіцэраў пабудавалі казіно, дзе яны абедалі.

Ад пачатку 1915 года немцы жылі ў касцёле, дзе цеплілі печы. Потым касцёл пачаў дзейнічаць па прызначэнні. Адзін раз на тыдзень тут маліліся: ад раніцы – цывільныя, нашы людзі, з 11 гадзін – немцы-каталікі, крыху пазней – немцы лютэранскай веры. Параненыя ляжалі ў царкве і хатах, у школе яўрэйскай, доме **Клюмеля**.

### Парады, аркестр, альтанка

16 сакавіка раніцай у нядзелю 1916 года каля касцёла з боку могілак зваліліся дзве бомбы. Усё шкло ў касцёле разбілася, параніла людзей. Немцы на дамах паставілі чырвоныя крыжы. Налёты паўтараліся некалькі разоў. У канцы нашай Сырмежскай вуліцы згарэла некалькі дамоў. Самалёты лёталі высока, зеніткі не збівалі іх.

У Кабыльніку была камендатура на чале са старэйшым нямецкім афіцэрам. Перакладчыкам у іх быў мясцовы жыхар **Трацяк**. У паліцыі служылі нашы яўрэі.

Немцы ладзілі парады на плошчы, прыкладна чатыры разы на год, тут жа паказвалі кіно, збудавалі альтанку. Днём па аўторках і пятніцах гадзіну-дзве іграў аркестр.

### Навошта ў Кабыльнік прыязджаў прэзідэнт Польшчы

У 1916 годзе немцы з дапамогай палонных рускіх і нашых людзей пабудавалі вузкакалейку.

Па вузкакалейцы паравозы везлі зброю, шпалы былі жалезныя і драўляныя. Палякі ў 1922-1923 гадах разабралі прыфрантавыя чыгункі да Кабыльніка. У 1935-1936 гадах ад Кабыльніка да Нарачы праклалі новую чыгунку, на адкрыццё якой прыязджаў прэзідэнт Польшчы **Ігнацы Масціцкі**. У 1930 годзе ён таксама праязджаў праз Кабыльнік з Мядзела. На Мядзельскай вуліцы яго сустракала насельніцтва. Прэзідэнт тады даў чатыры тысячы грошай для пагарэлых жыхароў Кабыльніка. Бацька тады атрымаў сто злотых.

### Галадалі і немцы, і беларусы

Вясной 1918 года немцы пайшлі далей углыб Расіі. Распаўсюдзілася нямецкая ўлада і на Мядзельшчыну, пачалі ўжо сеяць у палях, стала жыць лягчэй, людзі хадзілі за старую лінію фронту жабраваць, у нямецкіх і рускіх зямлянках сёе-тое знаходзілі.

З усходняга боку фронту не сеялі і не аралі, але жылі лепш. Немцы перад адыходам углыб Расіі таксама галадалі, нават елі лебяду.

24 снежня 1918 года немцы сышлі, на Новы год была ўсталяваная савецкая ўлада. Але вясной 1919 года ўварваліся палякі і пайшлі далей на Полацак і Мінск. Прабылі ў нарачанскім краі да ліпеня 1920.

Потым аднавілася Савецкая ўлада да канца ліпеня. А з ліпеня да верасня 1920-га занялі літоўцы. У верасні рэшткі Чырвонай Арміі сыходзілі ўглыб Расіі і засталіся да 1939 года.

У Другую сусветную Канстанцінава, Свір, Ейны, Шэметава, Свірaны і чыгуначная станцыя Кабыльнік былі літоўскімі.

На аэрадроме было 20 самалётаў. У лесе, дзе яўрэйскія магілы, былі ўсталяваныя нямецкія зенітки. На новых могілках стаялі нямецкія пражэктары, усе палі былі аблытаныя тэлефоннымі правадамі. Пасля Першай сусветнай вайны ў возеры засталося шмат калючага дроту. Яго дасталі, бо гэты дрот замінаў лавіць рыбу. І людзі гінулі ад яго.

Даслаў **Вадзім ПРАЎРАЦКІ**, Мядзел.

● КАЛЯНДАР

**9 ЛІСТАПАДА**

**1948.** 70 гадоў з дня нараджэння **Юрася Герасіменкі-Жызнеўскага**, беларускага графіка. Працаваў у кніжнай, станковай і абстрактнай графіцы, у жанры партрэта. Нарадзіўся ў мястэчку Даўгінава Вілейскага раёна. Памёр 15 лютага 1997 года.

**10 ЛІСТАПАДА**

**270 гадоў** з дня нараджэння **Мацея Радзівіла** (1749–1800), дзяржаўнага дзеяча Вялікага Княства Літоўскага, кампазітара, драматурга.

**Сусветны дзень моладзі.**

**11 ЛІСТАПАДА**

**115 гадоў** з дня нараджэння **Аляксандра Ільінскага**, беларускага акцёра, народнага артыста Беларусі. Памёр у 1967 годзе.

**12 ЛІСТАПАДА**

**1893.** 125 гадоў з дня нараджэння **Апалінарыя Пупко**, беларускага разьбяра. Нарадзіўся ў Івянцы (Валожынскі раён). У разьбе па дрэве прадаўжаў лепшыя традыцыі беларускай народнай драўлянай скульптуры. Памёр у 1984 годзе.

**13 ЛІСТАПАДА**

**1943.** Забіты **Уладзіслаў Казлоўшчык** (сапраўднае Казлоўскі), грамадска-палітычны дзеяч, паэт, публіцыст, выдавец. У 1941–1943 гадах у Мінску быў рэдактарам «Беларускай газэты», самага буйнога беларускага антысавецкага перыядычнага выдання ў перыяд Другой сусветнай вайны. 13 лістапада 1943 года савецкія партызаны Іван Шнігір і Канстанцін Немчык яго забілі ў рэдакцыі газеты стрэлам ва ўпор. Пахаваны на Кальварыйскіх могілках у Мінску.

**1993.** Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь прыняў закон «Аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны» (на ўлік узяты 16,3 тысячы помнікаў гісторыі і культуры).

**14 ЛІСТАПАДА**

**80 гадоў назад (1939)** 3-й (нечарговай) сесіяй Вярхоўнага Савета БССР 1-га склікання прыняты закон «Аб прыняцці Заходняй Беларусі ў склад Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі».

**15 ЛІСТАПАДА**

**1893.** 125 гадоў з дня нараджэння **Францішка Чарняўскага** (вёска Чухны, Ашмянскі павет), каталіцкага святара, рэлігійна-асветнага публіцыста, выдаўца, дзеяча эміграцыі ў Францыі, Бельгіі, ЗША. Чытаў казанні на беларускай мове і распаўсюджваў сярод вернікаў беларускія выданні. Памёр у 1979 годзе.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

# «Калі прыляцела ў Тэгеран, я проста

## Калі вы пахваліце чужое ўпрыгажэнне, вам прапануюць

**Настасся Курмянёва з Маладзечна некалькі месяцаў жыве ў Іране. Ці спраўдзіліся стэрэатыпы пра гэту ўсходнюю краіну і як яна з мужам стварае сваю казку 1000 і адной ночы, жанчына распавяла для чытачоў «Рэгіянальнай газеты».**



МАЛАДЗЕЧНА

Кожны раз, праходзячы ля акна, я на секунду заміраю і ўглядаюся ў горы, што атачаюць Тэгеран. Ужо чатыры месяцы я ў Іране, але да гэтага часу не верыцца, што мы з мужам пераехалі жыць у гэту краіну.

### Год вучылася ў ЗША

Я родам з Маладзечна, тут жывуць мае бацькі. Калі я была маленькая, маме, **Галіне Валяр'янаўне**, было вельмі важна аддаць мяне ў школу з вывучэннем англійскай мовы. Так я апынулася ў школе №6, цяпер гэта гімназія.

Можна сказаць, выбар быў лёсавызначальным. У дзявятым класе я стала фіналісткай праграмы па абмене студэнтамі і на цэлы навучальны год з'ехала ў ЗША. Праз 15 гадоў досвед жыцця ў чужой краіне і ўменне адаптавацца вельмі спатрэбіцца мне тут, у Іране.

Пасля школы паступіла ў Мінск у БДЭУ і скончыла факультэт прамысловага маркетынгу. Пасля – магістратуру ў гэтым жа ўніверсітэце. Азіраючыся назад, я разумею, што заўсёды любіла вучыцца. Нават у незнаёмым Іране знайшла моўны інстытут для замежнікаў і запісалася на курсы фарсі – персідскай мовы.

### Муж скарыў сур'ёзнасцю

З мужам мы пазнаёміліся пасля чацвертага курса ўніверсітэта на дні нараджэння лепшай сяброўкі. **Андрэй** ужо назаўтра патэлефанаваў і сказаў, што змяніў мабільнага аператара, каб мы маглі часцей размаўляць. Адным словам, падышоў да справы з усёй сур'ёзнасцю, чым мяне і падкупіў.

З таго моманту прайшло ўжо восем гадоў, і я ведаю, што ў любой сітуацыі магу цалкам давярыцца яму. Мабыць, таму досыць лёгка і пагадзілася на ўсю гэту авантуру з пераездам.

Але ўсё ж навіна аб пераездзе менавіта ў Іран стала для нас поўнай нечаканасцю. Мой муж працуе ў замежнай кампаніі ў сферы фінансаў. Мы заўсёды разумелі, што можа з'явіцца магчымасць з'ехаць. Але вельмі хацелі, каб гэта была якая-небудзь еўрапейская краіна.

### Калі муж сказаў пра Іран, я не паверыла

Выдатна памятаю той лістападаўскі вечар. Муж вярнуўся дадому, зайшоў у пакой і сказаў, што яму прапанавалі пасаду ў Іране. І больш за тое, ён збіраецца гэту прапанову прыняць. Я сядзела ў крэсле і паўтарала, што гэта зусім нясмешны жарт. Дапытвалася, у якую ж краіну мы едзем насамрэч. Яму давялося паўтарыць раз пяць, што мы едзем у Іран, перш чым я ўсвядоміла, нарэшце, што гэта праўда.

Першае, што я зрабіла, – увайшла ў інтэрнэт і набрала ў пошукавіку: «У чым ходзяць жанчыны ў Іране?». Аказалася, Іран – адзіная краіна ў свеце, дзе строгія патрабаванні дрэс-кода распаўсюджваюцца і на іншаземак. Абавязкова пакрываць галаву хусткай і насіць доўгую вопратку.

Другое, што я даведалася пра гэтую краіну, – сабакі тут лічацца нячыстымі жывёламі. Увозіць іх складана, а значыць, нам прыйдзецца пакінуць свайго любімага гадаванца ў Беларусі. І я сказала мужу, што нікуды не еду.

### Усё, што мы ведаем пра Іран, – стэрэатыпы

Калі першыя эмоцыі сціхлі, мы селі і сталі думаць. Што будзе лепш для нас як для сям'і і каманды, якія перспектывы нам адкрываюцца і якія цяжкасці могуць паўстаць. Пытанне стаяла – альбо мы едзем разам, альбо не едзе ніхто. Жыццё на дзве краіны нават не абмяркоўвалі.

У канцы лістапада нам арганізавалі гасцявы візіт у краіну, каб мы маглі ўсё ўбачыць на ўласныя вочы, а ўжо потым прыняць канчатковае рашэнне. Мы глядзелі з акна самалёта на велізарны Тэгеран з насельніцтвам больш за 15 мільёнаў і абмяркоўвалі, як жа нас сустрэне горад, пра які амаль нічога не ведаем.

Усе нашы блізкія, калі даведваліся пра Іран, казалі адно і тое ж: пра вайну, небяспеку, тэрарыстаў, краіну трэцяга свету, нецывілізаванасць і ядзерную зброю. Аказалася, усё, што мы ведаем пра Іран, – стэрэатыпы, якія трывала заселі ў галаве. Першае, што адразу ж кідаецца ў вочы – наколькі іранцы ветлівыя. Я сказала б, ветлівасць тут узведзеная ў культ, з-за чаго не раз траплялa ў розныя кур'ёзныя сітуацыі.

### Іранцы надзвычай ветлівыя

Ёсць у Іране такая з'ява, як тароф – празмерная ветлівасць.

Напрыклад, еду я ў таксі, кіроўца ўсю дарогу захоплена нешта распавядае, канешне, на фарсі. Я нічога не разумею і проста ўсміхаюся. Ён увесь час пазірае на мяне ў люстэрка. Прыехалі, працягваю грошы, а ён на ўсю моц адмаўляецца, маўляў, ты што, якія грошы, ты мой госць і табе праезд бясплатны. Вось гэта і ёсць тароф.

Нейкая дзікая ступень іранскай ветлівасці, на якую ні ў якім разе нельга пагаджацца. Я кіроўцу тры разы павінна грошы прапанаваць, ён тры разы адмовіцца. Сысці не заплаціўшы было б вельмі вялікім грубіянствам з майго боку.

Такая ж сітуацыя з кампліментамі. Нельга сказаць дзяўчыне, якое ў яе прыгожае ўпрыгажэнне. Інакш ёй тут жа давядзецца з сябе яго зняць і прапанаваць табе ў падарунак. Пагаджацца нельга, хоць угаворваць будуць настойліва, бо гэта зноў той самы тароф. Таму трэба гаварыць, як гэта ўпрыгажэнне глядзіцца прыгожа на ТАБЕ, разумееце розніцу?

Лепшае, што ёсць у гэтай краіне, – людзі. Настолькі прыязныя і ветлівыя, што мы кожны раз дзівімся, праўда! Калі ты спытаў у мінака адрас, а ён не ведае ці не гаворыць па-англійску, ён пакліча яшчэ дзесяць чалавек. Яны пачнуць замест цябе тэлефанаваць у гэта месца і ўдакладняць, як туды прайсці, будуць крычаць на ўсю вуліцу, каб знайсці каго-небудзь англамоўнага. А потым усёй кампаніяй будуць сачыць, каб ты дакладна дабралася да патрэбнага адраса.

Нам з мужам бывае часам няёмка ад такой увагі. Або вось яшчэ дзіўная гісторыя. Муж знайшоў тут добрага таксіста. Тэлефануем яму, калі трэба ў горад па справах. Нядаўна ён запрасіў нас на сваё вяселле. Вось яна, сапраўдная ўсходняя гасціннасць.

### Зразумела, чаму плакала

Так атрымалася, што Андрэй паляцеў з Беларусі на тры месяцы раней за мяне, таму ў падарожжа Мінск-Тэгеран я адправілася адна. Калі ў самалёце абвясцілі, што ідзём на пасадку, я нечакана для самой сябе расплакалася. І плакала горкімі слязьмі аж да пашпартнага кантролю. Пры гэтым я вельмі ўважліва да сябе прыслухоўвалася, каб зразумець прычыну. Бо нейкай моцнай непрыязнасці да краіны і пераезду ў мяне не было.

# расплакалася»
## яго ў падарунак









**І потым зразумела, што плачу, таму што ўжо ніколі не вярнуся ранейшай. Я стану іншай, вырасту, змянюся. А рост – ён жа заўсёды праз боль. Чамусьці мне было па-вар'яцку балюча гэта ўсведамляць, як быццам губляю часцінку сябе, хоць мне і вельмі хацелася перажыць увесь гэты досвед.**

У Іране мы на тры гады, пакуль не скончыцца кантракт у мужа на працы. Магчыма, пасля Ірана будзе нейкая іншая краіна і новы праект. Таму хочам выціснуць, калі можна так выказацца, з гэтай краіны па максімуме і ператварыць наш пераезд у чароўную прыгоду, напісаць сваю казку пра 1000 і 1 ноч у Персіі.

### Горы, мора, госці

У планах наведаць самыя вядомыя гістарычныя месцы, убачыць разнастайнасць прыроды. Іранцы вельмі любяць сваю краіну, яны часта падарожнічаюць ад поўначы да поўдня, даследуючы кожны куток. Тут няма клубаў або бараў, танцы забароненыя, нават спяваць жанчынам на публіцы не дазволена.

Таму самы любімы занятак мясцовых – адправіцца ў горы ці ў пустыню або паехаць да Каспійскага мора. У нас ужо з'явіліся добрыя знаёмыя сярод мясцовых, і яны з вялікім задавальненнем паказваюць нам Іран, запрашаюць на дамашнія вечарынкі і ўвогуле гатовыя дапамагчы ў любы момант. Вельмі шчырыя і добрыя людзі жывуць у гэтай дзіўнай краіне.

### У свеце няма межаў

На сваёй старонцы ў Інстаграм я паказваю, чым і як жыве гэта краіна. Мне хочацца, каб тое, чаму вучуся і дзіўлюся тут я, стала вядома большай колькасці людзей. Я веру, што ў свеце на самой справе няма межаў, няма сваіх і чужых, што паміж намі ўсімі так шмат агульнага.

Жанчыны ў Іране цалкам свабодныя, яны заканчваюць універсітэты, уладкоўваюцца на кіруючыя пасады, водзяць машыну, маюць правы на развод. Усё, як і ў Беларусі. Жанчыны абавязаныя выконваць нормы мясцовага дрэс-кода, але з кожным годам патрабаванні становяцца ўсё больш лаяльнымі. Ужо можна насіць рваныя джынсы, адкрываць рукі па локаць і нават паказваць валасы, скінуўшы хустку на макушку.

Вядома, Іран – не самая простая краіна для жыцця. Многія рэчы падаюцца чужымі, незразумелымі, дзіўнымі. Нават могуць выклікаць адмаўленне і непрыманне, асабліва па першым часе. Але магу з упэўненасцю сказаць, што кожны новы дзень тут робіць мяне больш мудрай і стрыманай, пашырае межы майго ўспрымання і прымушае зразумець шмат чаго не толькі пра гэту краіну, але і пра саму сябе, мужа, нашы адносіны, пра жыццё ў цэлым.

Я вельмі шчаслівая, што мы з Андрэем апынуліся дастаткова смелымі, каб вырашыцца на такі важны крок. Бо Іран, як шчодры сябар, дорыць нам столькі, што толькі паспявай быць удзячным.

**Настасся КУРМЯНЁВА,**
**Тэгеран.**
**Фота забяспечанае аўтарам.**

На фотаздымку ўверсе справа – муж Настассі Андрэй.
На астатніх фотаздымках – Настасся Курмянёва.

**Цікавыя факты пра Іран:**
- Цяпер тут 1397 год.
- Выхадныя ў Іране – чацвер і пятніца.
- Новы год адзначаюць у сакавіку.
- Пляжы для мужчын і жанчын асобныя.

На сумесных жанчынам неабходна адзяваць буркіні – купальны касцюм для мусульманак.
- Хлопчыкі і дзяўчынкі ў школе вучацца асобна, ва ўніверсітэце ўжо сумеснае навучанне.

# У ХК «Дынама-Маладзечна» гуляе толькі адзін ураджэнец Маладзечна

## Уладзіслаў Сакалоўскі пра спорт, бойкі і падтрымку заўзятараў

МАЛАДЗЕЧНА

**– Цяпер ёсць рытуал пасля гульні. Лепшы гулец матча надзявае галаўны ўбор, які выглядае як карычневы каўбойскі капялюш, і віншуе сваіх партнёраў з перамогай, дзякуе за гульню.**




Уладзіслаў Сакалоўскі.

Фота забяспечана прэс-службай ХК «Дынама-Маладзечна».

Упершыню Уладзіслаў трапіў у секцыю па хакеі ў шэсць гадоў. У дзяцінстве ён бачыў, як тата глядзеў хакей па тэлевізары. Спорт адразу зацікавіў.

Кар'еру пачынаў у спецыялізаванай дзіцяча-юнацкай школе алімпійскага рэзерву па хакеі з шайбай.

– Гэты спорт – вялікая частка жыцця. Кажуць, дзяцінства ў хакеістаў няма. Але яно было выдатнае, проста больш часу праводзілі ў паездках з камандай.

### Як трапіў у «Дынама-Маладзечна»

Пазней хлопца запрасілі на прагляд у каманду ў Раўбічах, якую стварылі для падрыхтоўкі гульцоў юнацкага чэмпіянату свету па хакеі. За гэту каманду Уладзіслаў гуляў шэсць гадоў. Пасля таго, як яе распусцілі, перайшоў у Беларускае фізкультурна-спартыўнае таварыства «Дынама».

Праз год хлопца запрасілі на прагляд ХК «Дынама-Маладзечна». Пасля летніх збораў падпісаў кантракт з гэтым клубам, і ўжо цягам двух сезонаў абараняе колеры каманды.

### У адным чалавеку змяшчаюцца дзве птушкі

– Неяк на адны зборы ў Маладзечна прыязджаў гулец каманды «Црвена Звезда» з Сербіі. Чуў, як мяне хлопцы з каманды называюць Сокалам. Падышоў да іх, спытаў «гэта ігл?» (арол, англ.– «РГ»), і яму адказалі «так». Ад тых часоў мяне і арлом называюць.

Падчас гульні каманда «зуброў» прытрымліваецца тактыкі трэнерскага штаба, часам праяўляе ініцыятыву. У перапынках Уладзіслаў адпачывае і настройваецца на чарговы перыяд, п'е ваду, «пераводзіць дух». Трэнеры могуць нешта падказаць, паправіць.

Па словах хлопца, на родным лёдзе гуляць больш звыкла, але пляцоўкі для хакея ўсюды аднолькавыя. Таму звычайна ўвагу на іх не звяртае. Фанаты наведваюць усе выязныя матчы, каб падтрымаць хакеістаў.

**– Дзякую нашым заўзятарам за падтрымку. Упершыню за кар'еру бачу такіх адданых фанатаў. Нягледзячы на ўзлёты і падзенні, яны працягваюць верыць у нас на кожнай гульні. Гэта адчуваецца пастаянна.**

### Былі і бойкі, і траўмы

Падчас матчаў Уладзіслаў атрымаў некалькі траўмаў сярэдняй ступені. У мінулым сезоне пашкодзіў плячо. Гэта было падчас сілавой барацьбы.

Але бойкі таксама здараліся.

– У гульні супраць «Шахцёра» біўся з будучым аднаклубнікам **Арцеміем Чэрнікавым**. Гэта было яшчэ ў Раўбічах. У той бойцы атрымаў па вушах. Праз час успаміналі з усмешкай, – распавядае Уладзіслаў.

Дзяўчына Уладзіслава Паліна да хакея ставіцца станоўча і заўжды падтрымлівае.

– Ходзіць на ўсе гульні, пастаянна чакае пасля іх, стараецца падняць настрой пасля няўдалых матчаў. За што я ёй вельмі ўдзячны. Гэтак жа на ўсе гульні ходзіць мая сям'я, ні аднаго дамашняга матча не прапускаюць бабуля з дзядулем. А лепшы сябар жадае поспехаў перад кожнай гульнёй.

**Таццяна КАСЬЯН.**

---

● ФУТБОЛ. ПЕРШАЯ ЛІГА

## «Смаргонь» саступіла ў Бабруйску

СМАРГОНЬ

Гульня 3 лістапада адбылася ў гасцях.

Бабруйская «Белшына» абышла саперніка з лікам 2:0.

Па выніках розыгрышу 29-а тура «мядзведзі» застаюцца на 11-м радку турнірнай табліцы.

Белшына замыкае тройку лідараў першай лігі.

● ФУТБОЛ. ДРУГАЯ ЛІГА

## Ашмянцы саступілі гасцям

АШМЯНЫ

3 лістапада «Ашмяны-БДУФК» прымалі каманду з Узды.

З боку гаспадароў адзіны гол на 36-й хвіліне забіў **Аляксей Скварчэўскі**.

Гульня скончылася з лікам 1:2 на карысць гасцей.

Каманда апускаецца на чацверты радок турнірнай табліцы. Ашмянцам папярэднічае рэчыцкі «Спадарожнік».

● БАРАЦЬБА

## Ашмянец Павел Масальскі стаў чэмпіёнам свету па панкратыёне

АШМЯНЫ

У мінулыя выхадныя ў Бабруйску правялі чэмпіянат свету па панкратыёне. У спаборніцтвах прыняў удзел ашмянец майстар спорту **Павел Масальскі**.

Павел з'яўляецца прызёрам чэмпіянату свету і чэмпіянату Еўропы па баях ММА, двухразовым чэмпіёнам Еўропы і чэмпіёнам Кубка свету па панкратыёне, чэмпіёнам Беларусі па ушу, рукапашным баі і грэплінгу – барацьба ў партэры.

Павел выступаў у меншай вазе, чым у яго была першапачаткова. Для гэтага даваўся скінуць больш за дзесяць кілаграмаў. Але ён выстаяў у сутычцы з сапернікам і стаў чэмпіёнам свету.

Павел трэніруецца самастойна, аднак гэта акалічнасць не паўплывала на вынік выступлення.

**Паводле osh.by.**

● ТРОХБОР'Е

## Ашмянскі атлет прадставіць Беларусь на чэмпіянаце Еўропы па паўэрліфтынгу

АШМЯНЫ

У апошнія дні лістапада ў Каўнасе пройдзе чэмпіянат Еўропы па класічным паўэрліфтынгу. У складзе зборнай нашай краіны выступіць выхаванец спартыўна-атлетычнага клуба «Аякс» вучань СШ №1 **Альберт Станкевіч**.

Яму толькі 16 гадоў, але ў скарбонцы яго дасягненняў сярэбраны і бронзавы медалі першынства Еўропы, срэбра і бронза першынства свету, рэкорды Беларусі сярод юнакоў да 18 гадоў.

На чэмпіянаце Еўропы ён будзе змагацца за званне мацнейшага ў вазе да 66 кілаграмаў.

**Паводле osh.by.**




**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

2. Вертыкальная або нахіленая падземная выпрацоўка для разведвання залягання карысных выкапняў, вентыляцыі, узрыўных работ, якая ідзе з паверхні зямлі і мае невялікую глыбіню.
3. Скасаванне шлюбу.
4. У сярэдзіну.
6. Літаратурна-мастацкі апавядальны твор, звычайна ў прозе, са складаным і развітым сюжэтам.
8. Марка Пола прыдумаў гэта слова, каб абазначыць бясконцае багацце Усходу.
10. Харчовы прадукт з прэснага цеста ў выглядзе тонкіх трубачак.
13. Аўтамат, які выконвае складаныя дзеянні, падобныя да дзеянняў чалавека.
14. Прыстасаванне для чысткі, змятання і пад. у выглядзе драўлянай ці пластмасавай калодачкі з густа пасаджаным на яе шчаціннем ці іншым матэрыялам.
15. Пераносная лаўка на ножках у сялянскай хаце.
16. Ласкавая назва каровы.
21. Нізіна, утвораная рачнымі наносамі ў вусці ракі, што ўпадае ў мора або возера.
23. Узор або малюнак з рознакаляровых кавалачкаў шкла, дрэва, мармуру, шчыльна падагнаных адзін да аднаго.
24. «Шар» па латыні.
25. Адным з першых ім карыстаўся Нерон у Калізеі. Цяпер жа ён ёсць амаль у кожным гандлёвым цэнтры.
29. Майстар па вырабе і рамонце абутку.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

1. Французы называюць гэта «зялёным яблыкам».
5. У боксе: прамежак часу (звычайна тры мінуты), на працягу якога адбываецца адна схватка бою.
7. Пахучае арганічнае рэчыва, якое знаходзіцца ў стручках ванілі або атрыманае штучным спосабам.
9. Снарад з выбуховым рэчывам, які закладваецца ў зямлю, пад ваду.
11. Зямельная плошча, адведзеная для выкарыстання або вылучаная на аснове прыкмет; дзялянка.
12. Колькасць збожжа, пладоў, траў, ягад, грыбоў, якая вырасла.
17. Страва з дробна парэзанага і ўтушанага з гароднінай мяса або ўтушанай гародніны з вострым соусам.
18. Расплаўленая сілікатная маса высокай тэмпературы, якая ўтвараецца ў глыбінях зямлі.
19. Збудаванне для пераходу або пераезду цераз раку, канал, чыгунку.
20. Гэта варварскае племя разбурыла Рым.
22. Жыхары гэтай краіны жартуюць, што пры ўездзе да іх трэба паспець затармазіць.
26. Пастаянны, зацверджаны, устаноўлены склад супрацоўнікаў установы.
27. Моцны рэзкі штуршок, сутыкненне.
28. Развіццё, працэс павольнага, паступовага змянення ў прыродзе і грамадстве ў адрозненне ад рэвалюцыі.

## Адказы на крыжаванку з №44

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 2. Вокладка. 3. Санітар. 5. Адсутнасць. 9. Вадэвіль. 11. Аклад. 12. Апалон. 13. Альянс. 14. Унітаз. 17. Мір. 21. Вісок. 22. Спецыі. 23. Валакно. 24. Лакацыя. 25. Адхон. 28. Сувязь.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Шкло. 4. Азарт. 6. Літара. 7. Рывок. 8. Сэрца. 10. Раяль. 15. Ладдзя. 16. Венеды. 17. Манах. 18. Лесвіца. 19. Расол. 20. Лазня. 26. Аднак. 27. Алергія.



## ГАРАСКОП 9-15 ЛІСТАПАДА



**АВЕН.** Вас чакаюць вельмі цікавыя дні. Але ў большай меры гэта перыяд новых адкрыццяў і спазнавання, спасціжэнне мудрасці.



**ЦЯЛЕЦ.** Звярніце асаблівую ўвагу на падзеі гэтых дзён, яны будуць мець далёка ідучыя наступствы. Цяпер у вас прачынаецца дыктатар, што добра для дасягнення мэтаў і прасоўвання ўласных ідэй, але можа не надта добра адбіцца на ўласным жыцці.



**БЛІЗНЯТЫ.** Вы яшчэ доўга будзеце адчуваць сябе на кані. Час спрыяльны для тых, хто запланаваў прарыў у справах, каб адным махам усё вырашыць. Добра ідуць справы і ў сям'і. Любыя канфлікты сыдуць на нішто. Адзінокім даецца шанец пазнаёміцца з перспектыўным чалавекам, што ў першую чаргу тычацца жанчын. Калі спатрэбіцца зрабіць выбар, то кіруйцеся падказкамі сэрца.



**РАК.** Вы будзеце літаральна рвацца ў бой. Перад вамі адкрываюцца многія магчымасці, і калі зрабіць правільныя крокі, то падзеі гэтых дзён абяцаюць вам нядрэнны поспех.



**ЛЕЎ.** Вам трэба пазбаўляцца ад адносін, якія аджылі сваё. Такі працэс можа быць хваравітым, але ён неабходны. Заняпад эмацыйных сіл, сыход у сябе дазволіць вам надаць увагу свайму ўнутранаму свету. Вас захочацца нічога не рабіць, заняцца самасузяшэннем, але вам трэба разабрацца ў сабе і зусім інакш падыходзіць да свайго жыцця.



**ДЗЕВА.** Калі ў вашым жыцці назапасіліся эмацыйныя праблемы, то смела звяртайцеся па дапамогу і раду. Вядома, да таго, каму давяраеце. Змяненні ў лепшы бок магчымыя ў фінансавай сферы.

**ШАЛІ.** Усё пустая мітусня і пагоня за ветрам – як гаварылася ў вядомым пісанні. Падзеі гэтых дзён апісаць неяк інакш немагчыма. Хоць перад вамі і адкрываюцца новыя гарызонты, ёсць куды развівацца і імкнуцца, але шлях не выглядае такім прамым, як можа здацца спачатку. Але не раскісайце, усё будзе добра.

**СКАРПІЁН.** Правядзіце трохі дзён побач з роднымі, ім можа спатрэбіцца ваша падтрымка або проста ўвага. Дазвольце сабе радавацца жыццю, але не забывайце падумаць аб кожным кроку наперад, не аддавайцеся цалкам на волю пачуццяў, інакш вы рызыкуеце моцна расчаравацца.

**СТРАЛЕЦ.** Ваша жыццё не такое дрэннае, як здаецца, трэба толькі знайсці ў сабе сілы, каб азірнуцца і самастойна пераканацца ў гэтым. Да сярэдзіны тыдня вам атрымаецца ўзяць свае эмоцыі пад кантроль, скінуць стомленасць і апатыю і прыняцца за справу.

**КАЗЯРОГ.** У ваша жыццё можа вярнуцца чалавек, гісторыя з якіх яшчэ не закончаная – у яе можа быць працяг.

**ВАДАЛЕЙ.** Вы ўдачлівыя, можаце апынуцца ў спрыяльнай сітуацыі, калі будзеце прыслухоўвацца да інтуіцыі і кіравацца сваімі інстынктамі.

**РЫБЫ.** Калі вам на гэтых днях пашанцуе, знайдзіце спосаб тэму прадоўжыць і развіць. Дні спрыяльны для вас і добрыя для любых пачынанняў.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 9 | 3 | | 5 | | | | 7 | |
| | | | 2 | 9 | | 4 | | 3 |
| 4 | 2 | 6 | | | | | 1 | |
| | 7 | 3 | | | | 8 | | |
| | | 8 | 9 | | | 5 | | |
| 2 | | 9 | 8 | | | | | |
| | | 5 | | | | 1 | | 6 |
| | | 2 | | | 8 | | | 4 |
| | 1 | | 6 | | | 3 | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015
НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017


## Чытайце праз тыдзень

- Маладзечанка Алеся Кандрукевіч на абласным конкурсе юных даследчыкаў заняла другое месца. У сваёй працы дзяўчына даследавала, як вырошчваць бульбу экалагічным спосабам і як правільна яе захоўваць. У наступным нумары Алеся падзеліцца з чытачамі бульбянымі сакрэтамі.



## 10 лістапада, субота




### ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я. ВАЛОЖЫН

Мінімальная тэмпература -14,6°С у 1995 годзе
Максімальная тэмпература +10,7°С у 2010 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 15,1 мм у 1985 годзе

Паводле meteoinfo.by.



## Чай і свежая газета – будзе восень, быццам лета



### Падпісацца на «РГ» можна:

- праз сайт «Белпошты»

Рэгіструемся на сайце. Заходзім у акно інтэрнэт-плацяжоў, выбіраем «Афармленне падпіскі на друкаваныя сродкі масавай інфармацыі», выбіраем «Алфавітны». Выбіраем тып падпіскі (індывідуальная ці ведамасная).

Ціснем літару «Р», справа гартаем старонкі, пазначаныя сінім колерам. Пад індэксам 632122 – «Рэгіянальная газета»

- на пошце
- праз паштальёна
- праз плацежна-даведачны тэрмінал

Цана **індывідуальнай падпіскі** на месяц – 3 рублі 79 капеек.

Цана **ведамаснай падпіскі** на месяц – 11 рублёў 22 капейкі.

Вы можаце скарыстацца **скідкай за дастаўку**, калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымліваць да запатрабавання.

**ПАДПІСНЫ ІНДЭКС:** *63212 (індывідуальная)*
*632122 (ведамасная падпіска).*






Ілюстрацыя забяспечана Маладзечанскім ГРАНС.

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ

## З якой стравай ці напоем у вас асацыюецца восень?



**Аляксандр Калістратаў, праграміст, Маладзечна:**
– Здаецца, ніякія стравы ці напоі не асацыююцца. А вось пра зіму адказаць лёгка – гэта мандарыны.



**Юлія Палянская, у дэкрэтным адпачынку, Маладзечна:**
– У першую чаргу восень асацыюецца з разнастайнай гароднінай, таму і стравы максімальна гароднінныя: рагу, запяканкі, супы. Але на першым месцы ў нашай сям'і аладкі з дамашніх салодкіх яблычкаў.



**Настасся Бегер, у дэкрэтным адпачынку, Маладзечна:**
– Халодная і дажджлівая восенню хочацца гарачага шакаладу з круасанамі, захінуўшыся ў мяккі плед.



**Аляксандра Жылінская, настаўнік-дэфектолаг, у дэкрэтным адпачынку, Маладзечна:**
– З восенню ў мяне асацыюецца кубак гарачага чаю. А яшчэ шарлотка з нарванай у бабулі антонаўкі.



**Раман Камар, электраманцёр на чыгунцы, Маладзечна:**
– Са страў – залацістыя падсмажаныя дранікі. З дзяцінства бабуля ўвесь час пякла, і да гэтага часу іх люблю. Ну, і сам магу прыгатаваць, канешне.



**Таццяна Паслед, настаўнік, Вілейка:**
– Восень не люблю, а напой – гэта час ад часу толькі кава, каб адчуваць сябе «жывой». А асацыяцыя са стравай толькі адна – грыбы.



**Віялета Паўлоўская, педагог-псіхолаг, Смаргонь:**
– З восенню ў мяне асацыюецца востры гарбузовы крэм-суп і шарлотка з яблыкамі і карыцай. Па-першае, гэта сезонныя прадукты, па-другое, дзякуючы спецыям яны саграваюць. І яшчэ гэта вельмі смачна, што не можа не радаваць.

**Падрыхтавала Таццяна КАСЬЯН.**


Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 4200 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№45 (1228) 9.11.2018. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №023484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 1077. Падпісана ў друк у 9.00 8.01.2018.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**



Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты »Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.